ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# СУПОЛКА “ЯНА-ТРЫ-ЁН”: ДА ПЫТАННЯ АКЦЫЯНІЗМУ Ў ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВЕ

АДАМ ШОСТАК

***Анатацыя:*** У артыкуле разглядаецца творчасць суполкі літаратараў “Яна-тры-ён”, прадстаўнікоў хвалі літаратурнага акцыянізму сярэдзіны 2000-х. Прасочваюцца адметныя рысы літаратурнага перформансу і арт-аб’екта, узаемаўплывы літаратурнага і візуальнага складнікаў у творчасці маладых аўтараў, эстэтычныя сувязі і адметнасць “яна-тры-ёнаўцаў” у параўнанні з рухам “Бум-Бам-Літ”.

***Ключавыя словы:*** акцыянісцкае мастацтва, актуальнае мастацтва, літаратурны перформанс, “Яна-тры-ён”.

## “JANA-TRY-JON” (“SHE-THREE-HE”) ART GROUP: TO THE QUESTION OF ACTIONISM IN LITERATURE AND ART

***Abstract:*** The article is devoted to “Jana-Try-Jon” (literal translation “She-Three-He”) art group, the representatives of the literary actionism wave in the middle 2000s. The distinctive features of literary performance and art object, the mutual influence of literary and visual components in the works of young artists, the aesthetic connections and contrast of “Jana-Try-Jon” activists can be traced as compared to the “Boom-Bam-Lit” community.

***Keywords:*** Action in Art, Actual Art, Literary Performance, “Jana-Try-Jon” (“She-Three-He”).

Літаратура з’явілася “рухавіком” у беларускім авангардным мастацтве сярэдзіны 1990-х. Такі пункт гледжання, у прыватнасці, падзяляюць Валянцін Акудовіч, Зміцер Вішнёў (Акудовіч, 2004: 47; Вішнёў, 2008: 20). Існуюць тэксты для чытання (зрокавага ўспрыняцця) і тэксты для публічных выступаў, якія могуць перараджацца ў акцыю. Акрэсленым зыходным пунктам беларускага літаратурнага акцыянізму стаўся рух “Бум-Бам-Літ”, які з’явіўся ў сярэдзіне 1990-х. Вядомыя перформансы “бумбамлітаўцаў” (Зміцер Вішнёў, Віктар Жыбуль і інш.). Пры гэтым акцыянізм у візуальных мастацтвах праяўляўся ў творчасці айчынных мастакоў пачынаючы з канца 1980-х, пра што адзначае Кацярына Безмацерных (Безмацерных, 2006).[1]

Літаратурны акцыянізм, перадусім літаратурны перформанс, не новая з’ява ў сусветным мастацтве. Да ліку вядомых еўрапейскіх паэтаўперформераў адносіцца італьянскі аўтар Нікала Франджоні (Nicola Frangione), які чытае вершы на фоне відэаарту. Адной з манументальных прац Н. Франджоні сталася “Паэтычная акцыя”, паказаная падчас Міжнароднага фестывалю арт-перформансу “Навінкі” ў Мінску ў 2006 годзе (гл. Navinki, 2006: 17).

Суполка “Яна-тры-ён” стала наступным пасля “Бум-Бам-Літ” этапам у развіцці беларускага акцыянісцкага мастацтва. Передумовай узнікнення суполкі стаўся выязны выступ некаторых з будучых чальцоў “Яна-тры-ён”. 15 лютага 2006 года маладых літаратараў з Мінска – Вольгу Рагавую, Юрася Ленскага, Адама Шостака – запрасілі выступіць перад навучэнцамі Барысаўскага педкаледжа. Выступ адрозніваўся ад традыцыйнага *“звыклага “афіцыёзнага” чытання вершыкаў”,* пераўтварыўся *“ў своеасаблівае сцэнічнае імправізацыйнае відовішча”* (Яна-тры-ён, 2010: 13).

Калі калектыўныя перформансы “бумбамлітаўцаў” былі цалкам візуалізаванымі і непасрэдна не былі звязаныя з тэкстамі, творчасць “яна-тры-ёнаўцаў” найперш была звязана з калектыўным літаратурным перформансам. Перформансы “Яна-тры-ён” грунтаваліся на аснове тэкстаў чальцоў суполкі. Літаратурныя перформансы групаваліся ў калектыўныя праграмы, і ў гэтым была адметнасць творчасці “яна-тры-ёнаўцаў”.

У актыўнай фазе “Яна-тры-ён” праіснавала з 2005 па 2008 год. Склад “Яна-тры-ёна” не быў пастаянным. Спачатку ў суполку ўваходзілі Вольга Рагавая, Юрась Ленскі, Адам Шостак і Васіль Паўлініч. У 2007 годзе з суполкі выходзіць В. Паўлініч і ўваходзіць Юлія Заблоцкая. Узрост

[1] Першы беларускі перформанс мастакоў Ігара Кашкурэвіча і Людмілы Русавай, паказаны ў Віцебску ў 1988 годзе, прысвечаны 110-годдзю з дня народзінаў Казіміра Малевіча.

пастаянных удзельнікаў на момант стварэння суполкі – 20–22 гады. Назва суполкі нарадзілася падчас прыватнай размовы і належыць мастацтвазнаўцы Аліне Кушняровай. *“Адна “Яна” (Вольга) і тры “Ён” (Юрась, Адам і Васіль)”* (Яна-тры-ён, 2010: 14).

Для творчасці “Яна-тры-ён” было характэрнае двухмоўе: В. Рагавая пісала вершы па-руску, іншыя ўдзельнікі – пераважна па-беларуску. Да прыкладу, тэма двух- і полімоўнасці ўздымалася ў паказе “Сурдапераклад метро”: *“усе персанажы становяцца глуханямымі, так і не знаходзяць паразумення”,* размаўляючы жэстамі (Яна-тры-ён, 2010: 35).

Эстэтычна творчасць “Яна-тры-ён” была блізкая да творчасці прадстаўнікоў “Бум-бам-літ”. Да акцый “Яна-тры-ён” некалькі разоў далучаўся прадстаўнік “Бум-Бам-Літ” Алесь Туровіч, які, у прыватнасці, без папярэджання зладзіў акцыю “А. Шостак а Шостай” (фестываль “Unreal Student Art”, Мінск, 2009 год). У В. Жыбуля (сярэдзіна 2000-х) была ідэя стварыць сумесны з “Яна-тры-ён” флэш-моб “Аўкцыён рыфмаў” побач з адной з рэдакцый, дзе аўтар прапаноўваў прадаваць рыфмы ў дапамогу маладым паэтам; быў створаны прайс-ліст з коштамі рыфмаў па ўзроўні іх складанасці. Блізкім да ідэі В. Жыбуля быў “Антыкамерцыйны маніфест” “Яна-тры-ён”.

Некаторыя прынцыпы “Яна-тры-ён” праявіліся пасля распаду суполкі ў 2008 годзе ў “сольных” акцыях яго былых удзельнікаў (канец 2000-х – пачатак 2010-х гадоў). Да прыкладу, характэрна існаванне некаторых твораў у тэкставай і перформанс-формах. Сярод такіх твораў – “Паэма кахання…” (верш Ю. Ленскага, сумесны перформанс “яна-тры-ёнаўскага” перыяду), “Фізіка і хімія” (пазнейшы верш і перформанс А. Шостака, пачатак 2010-х гадоў).

“Яна-тры-ёнаўцы”, як і старэйшыя “бумбамлітаўцы”, імкнуліся да ўвядзення творчасці ў пабытовае штодзённае жыццё. Юрась Ленскі падчас навучання на спецыяльнасці “дакументазнаўства” ў Ліцэі пры БНТУ[2] падпісваў кантрольныя працы-ўзоры дакументаў прозвішчамі чальцоў “Яна-тры-ён” і агульных сяброў (2005).

Візуалізацыя літаратуры “яна-тры-ёнаўцаў” праяўлялася ў арт-аб’ектах. Літаратурныя арт-аб’екты “Яна-тры-ён” сталіся ўнікальнымі праявамі беларускай культурніцкай прасторы таго часу. Адным з іх стаў аб’ект “БЖ”, несанкцыянавана прадэманстраваны ў Нацыянальным мастацкім музеі. “БЖ” – абрэвіятура “Беларускі жывапіс”: дзве літары, выразаныя з металу і паралону, закансерваваныя ў трохлітровым слоіку. Фабула акцыі: навучыцца *“вырошчваць бж у фондасховішчах”* (Шостак, 2012). Напісанне ўласнага імя ў розных варыянтах выступала ў перформансе А. Шостака “My name is”, паказаным на фестывалі “Навінкі” ў

[2] Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце.

2009 годзе (гл. фота ў артыкуле: Паплаўская, 2012). Падчас перформансу аўтар пісаў сваё імя ў транслітарацыі больш як на дзесяці мовах, у тым ліку на арабскай, іўрыце, фарсі, кітайскай. Тэкст-акцыя "ЗіМа" быў паказаны А. Шостакам падчас некалькіх імпрэзаў у кнігарні "Логвінаў" і музеі імя Янкі Купалы ў Мінску (2009). Слова "зіма" было набранае рознымі кеглямі і раздрукаванае на паперы: ад адной літары "З" на цэлую старонку А4 да кегля 1 pt. font, у якім літары набліжаліся да кропак.

"Яна-тры-ён" развівае пачатую "бумбамлітаўцамі" тэму адсутнасці мастака і мастацтва ("Белы, чорны і празрысты аркушы паперы" А. Туровіча). Трансфармацыя гукаў у "адсутны" тэкст была зробленая падчас перформансу А. Шостака "Vox populi" (фестываль "Навінкі", 2008 год): *"Я раблю механічную работу, "канспектуючы" на камп'ютарнай клавіятуры розныя хвалі радыёпрымача. На розных хвалях падладжваюся пад хуткасць мовы, пад сэнс (ці бяссэнсавасць) бясконцых тэкстаў"* (Яна-тры-ён, 2010: 39–40).

Ці жывы "Яна-тры-ён" сёння? Як і ўсе плыні, "Яна-тры-ён" меў пачатак, актыўную фазу дзейнасці, быў падобны да вектара, які мае свой зыходны пункт і працягваецца ў сваіх уплывах нават пасля дэкларавання самараспаду. Нездарма пэўная "яна-тры-ёнаўская" эстэтыка праяўляецца ў пазнейшых творах былых "яна-тры-ёнаўцаў". "Вектарнасць" "Яна-тры-ён" была паказаная ў кнігарні "Галіяфы" падчас імпрэзы "Яна-тры-ён: 9,5", прысвечанай 9,5-годдзю суполкі (15 ліпеня 2014 года). А. Шостак паказаў перформанс "Infinity/Бясконцасць", дзе пісаў лік π на ганку памяшкання кнігарні.[3] Было напісана содаю на асфальце каля 20 першых лічбаў ліку π: ірацыянальнага і трансцэндэнтнага. Творчасць кожнага з маладых аўтараў "вырастае" з пэўнага атачэння, з пэўных суполак, але закладзены імпульс працягваецца бясконца.

На дадзены момант некаторыя чальцы былога "Яна-тры-ён" працягваюць займацца музыкай (В. Рагавая), літаратурай (А. Шостак), візуальнымі мастацтвамі – пераважна перформансам (В. Рагавая, Ю. Ленскі, Ю. Заблоцкая, А. Шостак). Але "яна-тры-ёнаўцы" не займаюцца цяпер калектыўнай творчасцю.

### ***Бібліяграфія***

1. Акудовіч, Валянцін (2004). *Разбурыць Парыж.* Мінск: Логвінаў.

2. Безмацерных, Кацярына (2006). "Я не вар'ят, мама! Я – пэрформэр!", *Наша Ніва,* 16.10.2006, URL (доступ 22.02.2015): http://nn.by/?c=ar&i=4350

[3] Памяшканне было зачыненае 11 лютага 2015 года.

3. Вішнёў, Зміцер (2008). “Найноўшы беларускі літаратурны працэс: выданні, суполкі, імёны”. *Новы час,* 31.03.2008.

4. Паплаўская, Ася (2012). “Адам Шостак: перформанс — гэта не выпяндрож!”, *Naviny.by,* 04.09.2012, URL (доступ 22.02.2015): http://naviny.by/rubrics/culture/2012/09/04/ic_articles_117_179074/

5. Шостак, Адам (2012). “бж бж бж – две первые буквы беларусского арт-алфавита”, *KYKY,* 31.05.2012, URL (доступ 22.02.2015): http://adam.kyky.org/blog/4fc76188ab370c23f7000038

6. *Яна-тры-ён.* Тэксты. (2010). Мінск: Галіяфы.

7. *Navinki. 8th Internetional Performance Art Festival in Minsk* (2006). Minsk: “Ten” Performance Art Gallery.